толькі ў сваёй хаце. Ягоныя патэнцыі ня зужытыя, ягоныя правы незапярэчныя (калі толькі наагул ёсьць права), ён перамагае й пераможа ўсюды — у гэта сяньня ўжо можна ня толькі верыць, але й ведаць.

Розьніцу вялікадзяржаўнага й малога нацыяналізму добра зразумелі й тэарытычна сфармулявалі бальшавікі. Сваёй прыхільнай да малых нацыяў тэорыяй яны прыцягвалі (і прыцягваюць, стараюцца прыцягваць і цяпер) да сябе розныя народы. Праўда, гэтае прыцягненьне палягае на ведамым бальшавіцкім прынцыпе — «косю, косю ды ў ваглоблі», бо практыка тут у поўным «адзінсьцьве супрацьлежнасьцяў» з тэорыяй, што да нутранога ўжытку: калі Сталін галосіць, што «галоўнай небясьпекай на дадзеным этапе вялікадзяржаўны вялікарускі шавінізм», дык НКВД хапае, замыкае й страляе толькі «мясцовых нацыяналістых»-«нацдэмаў» малых нацыяў... На гэтай практыцы ўжо добра апякліся й пазналіся навек прадстаўнікі ці аднаго народу, налажыўшы тут і лепшымі сваймі галовамі, што паляцелі на вогнік у розных «нацыянал-камунізмах» (як Ігнатоўскі, Чарвякоў, Галадзед, Алесь Адамовіч, Прышчэпаў і г. д. і г. д. у нас, або Шумскі, Скрыпнік, Хвылёвый у нашых суседзяў-Украінцаў). Аднак тое, што й сягоньня бальшавікі ловяць на тую-ж прынаду і што й цяпер могуць знайсьціся — або ў нясьведамасьці, або ў крытычным стане, калі чалавек, як топіцца, дык і за брытву хопіцца — іхныя новыя ахвяры — ніколі не кампрамітуе усяе справы. Наадварот, толькі падчырквае грознае memento тым з дужых сьвету, хто яшчэ ня хоча разумець голасу гісторыі ці жміньдзіцца з дробнай манэтай памогі...

Але-ж, нацыяналізм малых на ўздыме, вялікадзяржаўны шавінізм аканаваны й засуджаны на нямінучую памжу. Адно што, пэўна, і яму тапіцца ня хочацца, і за брытву хапацца крыху «боля», як кажуць дзеці, дык шукаецца хоць якая саломка, што — ану-ж — выцягне. І з такое саломкі пачынаюць плесьціся навет цэлыя прыгожа-ўзорыстыя маты розных «вялікапрасторавых» і «фэдэралістычных» канцэпцыяў. Але й «малыя» — хто іх ведае, мо й з таго «камплексу меншасьці» — навучаныя горкаю практыкаю, ня вельмі хапаюцца адразу кідацца на гэта. А што, калі гэная «вялікапрасторавасьць» — толькі псэўдонім тае-ж «вялікадзяржаўнасьці»? (Ведама-ж добра, што маскоўскі нацыяналізм аж пад псэўдонімам «інтэрнацыяналізму» вельмі спрытна «подвизалася» і «подвизается»...). А што, калі новае «міжмор'е» із старэнькім «ад мора да мора» розьніцца ня больш, як кій із палкаю? А што, калі й тут — як ня «косю, косю ды ў ваглоблі» — дык «цаца, цаца ды ў кішэню»? А цяпер яшчэ такое настырлівае хаўтураньне ўсякага нацыяналізму наагул, паховіны «паводля першае клясы» з абмінаньнем нядвузначна-вымоўных, гістарычнага значаньня фактаў сучаснасьці — таксама ня можа не наводзіць на думкі...

І таму «малыя нацыяналізмы», падбадзёраныя сяньняшнім ходам падзеяў, ня толькі ня будуць хапацца лезьці жыўцом у гасьцінна раскрываныя магілы, а найперш будуць імкнуцца да дасягненьня свайго неадымнага. І з асьцярогаю ставіцца да ўсяго, што так ці йначай, а прыгадвае сіло. Калі ўжо й фэдэрацыі, калі ўжо «вялікапрасторавыя» — дык няхай-бы як найвялікшыя аж да сусьветных (адзіны сусьветны ўрад) ці кантынэнтальных (Пан-Эўропа) маштабаў. Калі ў іх унутры канечныя й «рэгіянальныя» дык няхай не паўтараюць вялікадзяржаўнасьці, старых выпрабаваных, мо яшчэ толькі больш-менш пашыраных, а добра ўжо ў знакі дадзеных, у косьці ўедзеных камбінацыяў. Няхай камбінуюцца зь нейкіх больш-менш нэўтральных (прынамся, дасюль), не гістарычна-антаганістычных, не асымілятарска-сьціраваных ці з гэтае сьціраванасьці знаных складаноў-элемэнтаў (як хоць-бы й мроеная намі — ці-ж так ужо нерэальная? — «Паўночна-балтыцкая падкова» — Беларусь, Летува, Лацьвія, Эстонія, Фінляндыя, Нарвэгія, Швэдыя, Данія...).

А наагул — уздым, пэрспэктывы ўздыму тымчасам выразна на нашым баку, на баку «малых» і «забраных». А наагул — яшчэ раз паўтараем і будзем усьцяж паўтараць сваё сьвятое-запаветнае: **найперш — незалежнасьць, а там... будзе відаць!**

Будзе відаць, таксама як ужо цяпер відаць уздым і пэрспэктыўнасьць справядлівага нацыяналізму малых, відаць усім, хто толькі мае вочы бачыць, хто хоча глядзець.

---



---

### ПРАГА АБ БЕЛАРУСІ

4. 6. 48 а гадз. 18,15 радыё Прага надало ў чэскай мове нарыс гісторыі Беларусі (15-18 ст.), асьветліўшы ейную багатую мінуўшыну, звычаі й абычаі. Асабліва былі падчыркненыя высока-культурныя традыцыі беларускага народу й найчысьцейшыя ды найпрыгажэйшыя сярод Славянаў беларускія народныя песьні із сама старадаўных часоў, што сьветчыць аб тым, што народ наш найдаўнейшымі часамі любіў песьні й музыку. На Беларусі захавалася аж да нашага часу шмат простых музычных інструмэнтаў — дудкі, жалейкі, цымбалы.

Пасьля гэтага было надана шмат беларускіх народных песьняў нашых кампазытараў Шчаглова, Багатырова і М. Забэйды. Былі выкананыя: «Прыляцелі гусі», «Ой, валы-ж мае», «Зялёны дубочак, на яр пахіліўся», «Ой, ляцелі гусі зь Беларусі», «Ой, пайду я лугам», «Ой, у лесе пры даліне», «Замуж пайсьці — трэба знаць» і шмат іншых.

**А. Шавель.**

# АДУСЮЛЬ

## СУПРАЦЬ РАСЕЙСКА-ІМПЭРЫЯЛІСТЫЧНАЕ ДЫВЭРСІІ

**(Рэзалюцыя Кангрэсу АБН )**

У сувязі з апублікаваньнем апошнім часам камунікату й дэклярацыі г. зв. «Задзіночанага зьезду дзеячоў вызвольнага руху народаў Расеі», што становіць сабою спробу адраджэньня ведамага сваім часам г. зв. «Камітэту вызваленьня народаў Расеі», а таксама ў сувязі з усімі іншымі лічнымі публікацыямі ад імя г. зв. «народаў Расеі» або «расейскае **шматнароднае** (?) нацыі» (праграма «Национально-Трудового Союза» й блізу ўся расейская зарубежная прэса), Кангрэс АБН, што складаецца з прадстаўнікоў вызвольных рухаў народаў — Армянаў, Азэрбайджанцаў, Беларусаў, Вугорцаў, Грузінаў, Донскіх Казакоў, Ідэль-Уральцаў (Татараў, Башкіраў, Чувашоў, Мардзьвіноў, Марыйцаў, Удмуртаў), Латышоў, Летувісаў, Паўночна-Каўказцаў (Асэтынаў, Чэчэнаў, Інгушоў, Чэркесаў, Карачаеў, Кабардына-Балкарцаў), Славакоў, Сэрбаў, Туркастанцаў, Украінцаў ды іншых паняволеных бальшавіцкаю Расеяй народаў, заяўляе:

1) Наагул ніколі не йснавала й ня йснуе ніякага «вызвольнага руху народаў Расеі», а ёсьць адно **вызвольныя рухі** народаў, паняволеных расейскім імпэрыялізмам у ягонай сучаснай бальшавіцкай форме, у тым ліку й вызвольны рух расейскага народу.

2) Ніякія ні арганізацыі, ні паасобныя дзеячы вызвольных рухаў народаў, паняволеных бальшавіцкаю Расеяй, апрача расейскага, ня бралі ніякага ўдзелу ў вышуспомненым зьезьдзе й наагул ува ўсіх палітычных акцыях ад імя г. зв. «народаў Расеі». Зрэшты, у сваіх публікацыях рэжысэры гэтага зьезду нідзе не назвалі ніводнае арганізацыі, ніводнага ймя ад іншых, апрача расейскага, народаў.

3) Усе дакумэнты ад гэтага зьезду й ад усякіх падобных арганізацыяў, дзе мова йдзець ад «народаў Расеі», становяць сабою ад пачатку й да канца дывэрсійную фальшыўку, разьлічаную на дэзарганізацыю масаў народаў, паняволеных расейска-бальшавіцкім імпэрыялізмам, у інтарэсах якраз расейска-імпэрыялістычных элемэнтаў, што жадаюць выкарыстаць вызвольныя рухі для сваіх імпэрыялістычных мэтаў.

4) Прадстаўнікі вызвольных рухаў народаў, паняволеных расейска-бальшавіцкім імпэрыялізмам, заяўляюць, што **ўсе** арганізацыі гэтых народаў стаяць на выразнай пляцформе змаганьня супраць расейскага імпэрыялізму ўва ўсіх ягоных відох і формах, тым самым выступаючы супраць усякіх спробаў адраджэньня г. зв. «адзінае недзялімае Расеі», збудаванай на спакораньні нашых народаў адзінаму расейскаму імпэрыяльнаму цэнтру. Сваё змаганьне супраць бальшавізму нашыя народы ніколі не адасабнялі й не адасабняюць ад змаганьня супраць расейскага імпэрыялізму й канцэпцыі «адзінае недзялімае Расеі».

5) Мэта змаганьня вызвольных рухаў народаў супраць бальшавізму — ня толькі зьнішчэньне бальшавіцкага рэжыму, але й дасягненьне народамі свае поўнае нацыянальна-гаспадарстваўскае незалежнасьці ад усякае Расеі, гэта значыць — ліквідацыя расейскае імпэрыі й ператварэньне Расеі толькі ў нацыянальнае гаспадарства расейскага народу на сваёй этнаграфічнай тэрыторыі.

6) Вітаючы ўсякую актыўнасьць расейскага вызвольнага руху супраць бальшавізму, Кангрэс АБН становўка пратэстуе супраць усякіх стала і ўпорыста паўтораных спробаў расейскіх імпэрыялістычных колаў выступаць ня толькі ад імя расейскага народу, але й ад імя іншых народаў, якія ніколі іх на гэта не ўпаўнаважвалі, а якія наадварот — бачаць у васобе гэтых імпэрыялістых сваіх варагоў.

7) Кангрэс АБН яшчэ раз падчырквае прыязнае й добразычлівае настаўленьне да расейскага народу, якога нашыя народы ніколі не мяшалі й не мяшаюць з расейскімі імпэрыялістымі, як бальшавіцкага, гэтак і ўсякага іншага тыпу.

8) Кангрэс АБН выказвае шчырае пажаданьне народаў АБН бачыць таксама й прадстаўнікоў расейскага вызвольнага руху ў сваіх радох, але дзеля гэтага заклікае ўсіх Расейцаў выступаць толькі ад імя свайго расейскага народу, а не ад імя «народаў Расеі».

9) Кангрэс АБН зварачаецца да аналёгічных АБН арганізацыяў паняволеных бальшавізмам народаў, што складаюць сабою Антыбальшавіцкую Лігу Аслабаненьня Народаў (АЛАН), дзе задзіночаныя **ўсе** палітычныя арганізацыі гэтых народаў — дзеля яснасьці і ў супрацьвагу самазванаму «Камітэту вызваленьня народаў Расеі» — стварыць **Камітэт Вызваленьня Народаў ад Расеі.**

### ЧАГО ЁН БАІЦЦА

Тыднёвік «Экспрэс» (Мюнхен) у № 20 ад 29. 5. 48 у дасьціпнай зацемцы «Баіцца НКВД» піша: «І. А. Бельскі (ведамы польскі журналісты. Рэд.) у сваім артыкуле «Манэўр ці зварот у палітыцы СССР» даходзіць да выснаву, што Масква мусіла адкінуць прапанову сустрэчы Труман-Сталін, якая паводля пастановы Прэзыдэнта ЗША магла-б адбыцца адзіна ў Белым Доме, таму, што сустрэча ў Вашынгтоне азначала-б савецкую апаразу ў «халоднай вайне» й прэстыжавы правал. Мы бачым іншыя прычыны савецкае адмовы. А наймя: уяўляем сабе, якія вельмі сэнсацыйныя рэвэляцыі могбы абвесьціць Сталін, калі-б так, апыніўшыся ў Вашынгтоне, адмовіўся вярнуцца ў СССР. Сэнсацыя на амэрыканскую меру й ганарары, шмат разоў большыя за тыя, што атрымаў Чэрчыль за свае мэмуары. Забясьпечаная старасьць і свабода ад страху, каб... каб ня тое, што НКВД баіцца».

# З БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

### ТОЛЬКІ ЦЯПЕР...

**Менск (БЕЛТА).** У сталіцы БССР закончанае поўнае аднаўленьне гарадзкое цепла-электрычнае цэнтралі. Нанова адбудаваны галоўны корпус, кацельная й дапаможныя цэхі. Устаноўленыя новыя мэханізмы для аўтаматычнае падачы торфу, змантавана 5 паравых катлоў і дзьве турбіны. Цэнтраля перавысіла даваенную магутнасьць у 3 разы. Прамысловы ток атрымалі большыя прадпрыёмствы й новабудоўлі Менску. Праводзяцца работы дзеля далейшага павялічэньня магутнасьці прадпрыёмства. Пашыраюцца машынныя цэхі. Пачалі класьці фундамэнт пад трэйцюю турбіну. Бліжэйшым часам цэнтраля дасьць першае сьвятло у жыльлёвыя дамы, пабудаваныя пасьля вайны (і ўсё гэта толькі цяпер, на пятым годзе па адваяваньні Менску... Рэд.).

### БАРОНЯЦЬ ГРЭКАЎ...

Цяперака ў Саветах, як ведама, шырака «пратэстуюць» супраць тэрору над «патрыётамі» і «народнымі дэмакратамі», гэта значыць — камуністымі ці яшчэ дакладней, камуністычнымі бандытамі ў Грэцыі. «Пратэставаць» мусяць, пэўна-ж, усе. Дык і ад імя беларускіх пісьменьнікаў БССР такі пратэст падпісалі Якуб Колас, Пятрусь Броўка, Аркадзь Куляшоў, Максім Танк...

Што-ж, калісьці й вялікі Байран ня толькі пратэставаў, але й збройна змагаўся за вызваленьне няшчасных Грэкаў. Аб гэтым наш нацыянальны, хоць і недавершаны, Байран — Уладзімер Дубоўка — пісаў (у забароненай і сканфіскаванай савецкай цэнзураю паэме «камбайне» — «Штурмуйце будучыні аванпосты»):

Лёрд Байран! Вы йшлі бараніць
Ня Грэкаў, а грэцкія міты.
Вяла Вас антычнасьці ніць
На поўдзень, у лаўры спавіты.
Лёрд Байран! Мінула даўно
Рамантыка гэная Ваша,
І з Туркамі Грэкі ў вадно
Для кухняў лаўровы ліст важаць...

Але-ж, мінула даўно рамантыка... Ня «грэцкія міты бараніць», а падмацоўваць крывавыя савецкія міты «народна-дэмакратычных рухаў» мусяць сяньня няшчасныя нашчадкі байранавага плямя ў «вялікай краіне запраўднай свабоды». Гэта проза, куды горшая за кухенны лаўровы ліст, бо — жудасная проза, хто толькі ведае й разумее...

**У.**

### РЫБЭНТРОП ДАМАГАЎСЯ БЕЛАРУСІ

**(Успаміны Чэрчыля).**

У 80 часапісах і газэтах цэлага сьвету ад колькіх ужо тыдняў друкуюцца ўспаміны выдатнага дзяржаўнага мужа й прэм'ера Вялікабрытаніі ў другой сусьветнай вайне, Уінстона Чэрчыля. Успаміны гэтыя пасьля зьявяцца ў шмат якіх мовах і ў выглядзе колькітомнай кнігі. Публікацыі Чэрчыля, якія раскрываюць сьвету шмат закулісных, як дыплёматычных, так і вайсковых таямніцаў з пары падрыхтовы да другое сусьветнае вайны і з часоў самое вайны, прыносяць ці мала важных і цікавых дадзеных і аб ролі Беларусі, якую яна грала ў меркаваньнях і плянах палітыкаў і дыплёматаў даваеннае й ваеннае Эўропы.

У першых разьдзелах сваіх успамінаў Чэрчыль расказвае пра адно цікавае для нас спатканьне з Рыбэнтропам у 1937 г. у Лёндане. Рыбэнтроп быў тады нямецкім пасланьнікам у Вялікабрытаніі. Гутарка трывала болей, як дзьве гадзіны. Рыбэнтроп быў нязвычайна ветлівы. Гаварылася аб усім эўрапейскім прасторы як із палітычнага, так і вайскова-тэхнічнага гледзішча.

Рыбэнтроп казаў, што Нямеччына хацела-б мець прыяцельскія дачыненьні з Ангельшчынай. Ён зазначыў, што ён мог ужо быць нямецкім міністрам замежных справаў, ды папрасіўся ў Гітлера паслаць яго ў Лёндан, каб там дакладна прадставіць магчымасьці брытанска-нямецкае антанты, ці навет саюзу.

Нямеччына стала-б плячо ў плячо з усёй вялікай брытанскай імпэрыяй. Нямеччына магчыма будзе дамагацца звароту сваіх калёніяў, ды гэта не найважнейшая й істотная справа. Што патрэбнае Нямеччыне, дык гэта тое, каб Вялікабрытанія пакінула ёй вольную руку на ўсходзе Эўропы.

Нямеччына, казаў Рыбэнтроп, мусіць мець жыцьцёвы прастор для свайго жыхарства, што ўсё больш узрастае. Дзеля гэтага Польшча з Данцыгскім калідорам павінна быць прылучаная да Нямеччыны. Таксама **Беларусь** і Ўкраіна для будучага Нямецкага Райху з 70 міліёнамі душаў канечныя. На меншым здаволіцца немагчыма. Ад Брытанскае Імпэрыі вымагаецца толькі, каб яна не мяшалася.

Зь перададзенай Чэрчылем гутаркі бачым, што Беларускі прастор браўся Гітлерам пад увагу як «Lebensraum» для нямецкага народу ўжо ладна перад пачаткам вайны. Паводля тэорыі Гітлера, выложанай у «Mein Kampf», палітычная моц Брытанскае Імпэрыі стаіць на даволі хісткіх асновах найперш таму, што асноўны фундамэнт такое вялікае імпэрыі — сама Ангельшчына — становіць сабою невялікі, абмежаваны прастор, якога немагчыма пашырыць. Таму Брытанскую Імпэрыю можна прыраўнаць да піраміды, што стаіць, пастаўленая на сваёй вяршалінцы. Таму яе можна лёгка перакуліць.

Нямеччыну, каб яна была моцная й ейная моц была трывалая, трэба будаваць, на думку Гітлера, на шырокай геаграфічна базе ў Эўропе, а ня гэтулькі на замарскіх калёніях. Гэтая шырокая база для нямецкае піраміды мела быць створаная першым чынам, як бачым з успамінаў Чэрчыля, далучэньнем да Нямеччыны прастораў, заселеных трыма народамі: Палякамі, Беларусамі і Ўкраінцамі.

**С. Б.**

# Па куткох эміграцыі

### ЦАРКВА СЬВ. АЎФРАСІННЬНІ Ў НЯМЕЧЧЫНЕ

На ўспамінак аб Рэгенсбургу прыходзіць нам, беларускім ДП, шмат успамінаў з нашае эміграцыі ў Нямеччыне. Бо Рэгенсбург стаўся памятным нам нечым большым, як адно жыцьцё ДП, і не памылімся, назваўшы яго месцам, дзе выявілася творчая сіла нашай эміграцыі, якая першымі днямі й гадамі пасьля ваеннае буры шукала нацыянальнага грунту для арганізаванасьці й тварэньня беларускае нацыянальнае сям'і на чужыне. У мясцовым лягеры ДП, дзе згуртавалася пэўная колькасьць Беларусаў пры сваім нацыянальным камітэце, пад апекай амэрыканскіх акупацыйных уладаў, гэтая нязвычайная нацыянальная энэргія запісала хвальныя чыны ў гісторыі нашае эміграцыі.

Царква сьв. Аўфрасіньні, збудаваная беларускімі эмігрантамі ў Рэгенсбургу — гэта жывы матар'яльны помнік таго часу.

І штогоду 5 чырвеня прыяжджаюць сюды Беларусы, каб адведаць сваю сьвятыню, пабудаваную суродзічамі на чэсьць Патронкі нашае зямлі. І гэтыя свайго роду паломніцтвы-пілігрымкі стаюцца якімсь гарачым дзейнікам у кірунку годнае рэпрэзэнтацыі нашае нацыі на чужыне. Усе чужынцы, якія нас тут бачаць, даведваюцца аб нас так, як калісь гэта было і ў Полацку, а набытыя пры царкве памяткі захоўваюць мілы ўспамін перажытага.

Ужо трэйці год адзначаюць Беларусы гэты дзень. Шмат хто зь Нямеччыны выехаў ужо за мора. Аднак, бальшыня яшчэ засталася й чакае на гэты выезд. Таму й сёлета, пры ўрачыстым багаслужэньні Высокапраасьвяшчэннейшага Архіепіскапа Філафея (які ў «зарубежжы» Расейскае Царквы выконвае функцыю лучнасьці з праваслаўнымі Беларусамі) яшчэ шмат было людзей з блізкіх беларускіх лягераў Віндышбэргердорфу, Міхельсдорфу, Остэргофэну й іншых мясьцінаў.

Сьв. Аўфрасіньня сталася агульна прызнанай Патронкай нацыі. Царква імя Яе ў Рэгенсбургу ў амэрыканскай зоне і Брацтва Яе-ж у ангельскай зоне сваім існаваньнем прыпамінаюць нам, Беларусам, аб рэлігійным жыцьці й павіннасьцях захоўваць свае традыцыі і рэлігійныя і нацыянальныя. Дай Божа, каб нам яшчэ была магчымасьць будаваць цэрквы на чэсьць Яе й на роднай зямлі. Гэтая думка, якая скіроўвае нас на шлях змаганьня за Вольную Беларусь, дае таксама імпульс і да таго, каб тварыць свае самастойныя парафіі і на эміграцыі. Прыход пры царкве сьв. Аўфрасіньні ў Рэгенсбургу быў першым, што правёў у нашым царкоўным жыцьці на эміграцыі вельмі важныя справы, якія будуць праводзіцца й далей да поўнай Аўтакефаліі нашае Беларускае Праваслаўнае Царквы. Таму, падаючы гэтую маленькую зацемку аб царкве сьв. Аўфрасіньні ў Рэгенсбургу, раю ўсім суродзічам адведваць яе калі ды памаліцца ў ёй з думкай аб лепшай долі нашага народу.

**А. Асіпчык.**

### «ШТУРМ» ГАРОЙ

Нашая моладзь пачала разьвівацца спартова, і на нядрэнна. Можа ў будучыні будзем мець сваю дружыну й на міжнародныя выступы з вольнае й незалежнае Беларусі. Можна будзе паказацца прад сьветам на ўсіх галінах свае культурнае сьпеласьці.

23. 5. 48 на спартовым пляцы ў месьце Каме нашая дружына «Штурм» згуляла футбольны матч із жыдоўскаю «Такабі». Глядачоў было больш за дзьве тысячы. Увесь час гульні перавага была на нашым баку. Глядачы Немцы раз-по-раз проста з энтузіязмам выгуквалі на чэсьць Беларусаў.

Вынік: 1-о на карысьць «Штурму». Па канцы гульні сотні глядачоў Немцаў рынулі гурбою на пляц, і паціскалі рукі нашым гульцом, ледзь не насілі на руках. Цяжка было адбараніцца ад вітальнікаў. З бурнымі воплескамі й выгукваньнямі на чэсьць нашых публіка пакінула пляц.

30. 5. 48 той-жа «Такабі» хацеў адгуляцца. І а 5 гадзіне пачалася гульня на нашым лягерным спартовым пляцы ў Міхельсдорфе. Глядачоў было каля тысячы зь места Каму і з блізкіх сёлаў, Жыды з Каму былі ўсе, прыехала дзесяць таксовак. Быў запрошаны і сп. губэрнатар.

Трэба зазначыць, што Жыды пераважалі векам: ніводнага ня было ніжэй за 25 год, а нашыя — гэта юнакі, ніводнага ня было за 20 год.

У першым раўньдзе «Штурм» на працягу 8 часінаў загнаў аднаго гола Жыдом. Пры самым канцы Жыды загналі аднаго гола нашым.

У другім раўньдзе, дармо, што былі няспрыяльныя атмасфэрныя абставіны — супраціўны вецер — праз увесь час нашыя трымаліся на полі супраціўніка.

Вынік: у першым раўньдзе 2:2, у другім — 1:0, гэта знача 3:2 на карысьць «Штурму».

Пасьля гульні вучаніцы аднаклясьніцы паднесьлі букет прыгожых красак сябру Пагуду.

Гарой, гарой, нашая моладзь! Разьвівайце ўсе свае таленты, каб у будучыні рэпрэзэнтаваць нашую Рэспубліку ў сьвеце!

**Сэкундант.**

## СУПРАЦЬ ЧОРНАЕ СОТНІ

### БЕЛАРУСКІЯ СКАЎТЫ! БЕЛАРУСКАЯ МОЛАДЗЬ!

Зь вялікім сумам і абурэньнем мы даведаліся аб тэй зьнявазе, якую дазналі дарагія нам усім Вашыя бел-чырвона-белыя сьцягі, што мела месца на Юр'я ў Міхельсдорфскай праваслаўнай царкве.

Нельга сьцярпець гэтай зьнявагі моўчкі, дзеля таго мы шлём Вам нашыя найшчырэйшыя спачуваньні.

Гэткі ўчынак ня мае апраўданьня. Гэта ўчынак бяз прыкладу, каб сябры якойсь нацыі ганьбілі свой сьцяг.

Тут дзеіць іншая сіла, гэта бязьмежная ненавісьць да таго, што беларускае, а карэньне гэтае ненавісьці ведама, дзе — у Маскве.

Масква інсьпіравала гэты ганебны ўчынак, Масква, без агляду, ці яна чырвоная ці іншага колеру.

Людзі, якія паважыліся на гэткі ганебны чын, ня могуць зваццa Беларусамі, а толькі вырадкамі й здраднікамі.

Але Ты, Дарагая Моладзь, ня траць свайго беларускага духу, вер, што праўда пераможа. Змагайся за сваю справу, а сьлёзы Твае хай ня будуць сьлязьмі паніжэньня, хай станунца тымі зернямі, зь якіх вырастуць сьветлыя сілы да далейшага змаганьня, аж да перамогі.

Мы ганарымся Вамі, што Вам стала сілы волі ўшанаваць сьвятое месца й не зарэагаваць чынам, як гэта сьлед было зрабіць у кажным іншым месцы. Але хай гэныя ўсе рэнэгаты ведаюць, што іхны ганебны ўчынак ім не забудзецца.

Мы Вас запэўняем, што сэрцы нашыя з Вамі.

З Вамі прыпадаем ніцма да бел-чырвана-белага сьцяга й цалуем ягоныя раны.

Чэсьць і слава Вам, нашая дарагая моладзь — Беларускія Скаўты Міхэльсдорфу!

Жыве Беларусь!

За «Хаўрус Беларусаў у Францыі»: **В. Шыманец**

За Аб'еднаньне Беларускіх Работнікаў у Францыі: **Інж. Л. Рыдлеўскі**

За Аб'еднаньне Беларускіх Студэнтаў у Францыі: **М. Наўмовіч**

За Аб'еднаньне Беларускіх Жанчынаў у Францыі: **В. Міцура**

### СТУДЭНТЫ ПРАТЭСТУЮЦЬ І ГАНЬБЯЦЬ

**(Рэзалюцыя марбурскіх студэнтаў).**

Агульны сход сяброў Беларускага Студэнцкага Згуртаваньня ў Марбургу 26. 5. 48 войстра пратэстуе супраць нячуванага ў культурным сьвеце факту барбарскага зьняважаньня беларускіх нацыянальных эмблемаў, што мела месца 6. 5. 48 у царкве лягеру Міхельдорф.

Мы, беларускія студэнты марбурскага ўнівэрсытэту дамагаемся строгага пакараньня агідных злачынцаў і іхных пакрывальнікаў, якія асьмеліліся спрафанаваць нацыянальную сьвятасьць.

Адначасна складаем віну на адміністрацыю лягеру Міхельсдорф, якая дапусьціла ў беларускім асяродку да дакананьня так ганебнага чыну.

### ЯК ДАЙШЛО ДА ГЭТАГА?

(Пачатак гл. у № 19 (22).

Кажнаму ясна, што з гледзішча праваслаўнае царквы гэтая справа недапушчальная. Сьцяг, супраць якога ўдар быццам кіраваўся, быў асьвячаны праваслаўным епіскапам. У царкве ён знаходзіўся ўжо шмат разоў, апошнім разам быў 25 сакавіка сёлета. І дзіўна, што бясьсільнымі выйшлі супраць гэтых трох чалавекаў і лягерная рада і камандант лягеру. Як толькі скаўты пачалі строіцца, каб ісьці ў царкву, старшыня лягернае рады й камандант лягеру паклікаў да сябе сьцяжнога ў канцылярыю, дзе былі і гэныя тры вышыбайлы, ды сказаў яму, што «народ» ня хоча, каб сьцяг, на адным баку якога напісана «Крывія», быў унесены ў царкву. Калі сьцяжны адказаў каманданту, што скаўты бязь сьцягу ў царкву ня пойдуць, камандант заявіў: «Я даводжу гэта да вашага ведама, а вы рабеце, як хочаце, мне царква не падлягае». Ясна, што лягерныя ўлады аб усім ужо ведалі й далі сваё багаслаўленьне тром чалавекам на іхны хуліганскі ўчынак.

Тут трэба адзначыць, што камандант лягеру за час свайго ўрадаваньня выказаў поўную бесхарактарнасьць, аказаўся нічым іншым, як толькі марыянэткай у руках сьведамага шкодніка беларускай справы — старшыні лягернае рады.

Вось гэты старшыня лягернай рады й вядзе адкрытае змаганьне быццам-бы «зь беларускім шавінізмам», а фактычна з кажнай нацыянальна-беларускай праявай. Ён, асабліва ў дачыненьні да моладзі, гаворыць аб «Чалавеку» зь вялікай літары. Кажны старэйшы, хто памятае бальшавіцкую прапаганду з 1917 г., добра ведае ўжо самы лёзунг, якім тады апэравалі бальшавіцкія правадыры. Аднак-жа ў бальшавіцкай практыцы гэным «Чалавекам» зь вялікае літары аказаўся ніхто іншы, як толькі «вялікі вядучы рускі народ» у вадзінай вялікай Расіі. Ясна, куды цаляе гэны «Чалавек» зь вялікай літары!

Факт зьняважаньня беларускіх скаўцкіх штандараў гэта быў акт, выкананы ў імя гэнага «Чалавека» зь вялікае літары. І зроблена гэта было пасьля таго, калі нашыя скаўты пад гэным бел-чырвона-белым сьцягам дасягнулі вельмі добрых вынікаў у міжнародных спаборніцтвах. Успомнім хоць-бы апошнія, адно 25-га сакавіка ў Гамбургу, пры шэфу сусьветнага скаўтынгу, другое — 26-га красавіка ў Рэгенсбургу.

Відавочна, гэтыя два здарэньні, што прынесьлі новыя ўдачы й разгалос нашай нацыянальнай моладзі, і перапоўнілі чару цярпеньня «Чалавека» зь вялікае літары.

Справу гэтага хуліганскага ўчынку цяпер разглядаюць Іраўскія ўлады. Няважна, які будзе іхны прысуд. Куды важнейшы прысуд, які вынясе на гэты ганебны ўчынак сьведамае беларускае грамадзянства.

(Канец).

**Міхельсдорфскі.**

## КАМУНІКАТ

### БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА КАМІТЭТУ

Зьезд выбраных дэлегатаў-прадстаўнікоў ад беларускіх лягераў і нацыянальных зарганізаваных групаў 24 красавіка 1948 г. аднагалосна пастанавіў абвесьціць грамадзкае ападаткаваньне за 1948 г. ад усіх Беларусаў, якія скончылі 18 год, з мэтаю шырэйшага зактывізаваньня нацыянальна-грамадзкае, дапамаговае, культурна-асьветнае й выдавецкае працы ў Нямеччыне, што праводзіцца пад агульным кіраўніцтвам Беларускага Цэнтральнага Камітэту.

Выконваючы гэтую пастанову, Беларускі Нацыянальны Камітэт гэтым падае да ведама нашага грамадзянства, што ён ужо пачынае спаганяць вышуспамененае грамадзкае ападаткаваньне. Адначасна Камітэт заклікае ўсіх Беларусаў у Нямеччыне выканаць гэты свой грамадзкі абавязак, бо ад гэтага ў вялікай меры залежыць шырыня й якасьць усяе нашае нацыянальна-грамадзкае, дапамаговае, культурна-асьветнае й выдавецкае дзейнасьці, так патрэбнае сяньня для нацыянальных інтарэсаў нашае эміграцыі.

З даручэньня Беларускага Нацыянальнага Камітэту спаганяньнем грамадзкага ападаткаваньня ў паасобных акупацыйных зонах Нямеччыны будуць займацца:

1. Беларускі Камітэт на Амэрыканскую Зону Нямеччыны (адрыс: Weißruthenisches Komitee, (13b), Osterhofen Ndb).

2. Беларускі Камітэт на Ангельскую Зону Нямеччыны (адрыс: Weißruthenisches Komitee, (23), Oldenburg (Old) Ohmstede Rennplatz, DP-Camp 224-F, Раńкой М.).

3. Беларускае Дабрадзейнае Згуртаваньне на Францускую Зону Нямеччыны (адрыс: Weißruthenische Vereinigung, (14b), Saulgau, Kaiserstraße 33, dr. Vojtenka V.).

У паасобных беларускіх лягерах і нацыянальных групах ападаткаваньне будуць спаганяць упаўнаважаныя гэтымі Камітэтамі асобы.

Беларусаў, якія ня маюць лучнасьці зь мясцовымі беларускімі камітэтамі, просіцца высылаць грамадзкі падатак поштай у свае Зонныя Камітэты, адрасы якіх паданыя вышэй. Беларусы, якія могуць, апрача грамадзкага ападаткаваньня, злажыць грашовую ахвяру, няхай гэта заадно зробяць.

У сувязі з хуткай грашовай рэформай справа гэтая ня можа быць адкладаная на пазьней, а павінна быць выкананая ў як найкарацейшым часе.

6. 6. 1948 г. **Прэзыдыюм Беларускага Нацыянальнага Камітэту**

### АД БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА КАМІТЭТУ НА АМЭРЫКАНСКУЮ ЗОНУ

5 чырвеня сёлета ў Остэргофэне адбылася нарада Рады і Ураду Беларускага Нацыянальнага Камітэту на Амэрыканскую зону.

Разглядалася справа далейшага вылучэньня Беларусаў з чужых лягераў, узмацненьня культурна-асьветнае дзейнасьці ў лягерах і групах, выкананьня загаду Беларускага Нацыянальнага Камітэту — Цэнтральнага Прадстаўніцтва ў справе зьбіраньня грамадзкага ападаткаваньня.

Пастаноўлена:

1. Выкарыстаць настаўніцкія сілы ў часе летніх канікулаў для культурна-асьветнае працы.

2. Склікаць настаўніцкую канфэрэнцыю пасьля заканчэньня школьнага году для падсумаваньня зробленае працы й дакладнага ўзгадненьня ды палепшаньня школьнае работы ў наступным годзе.

3. Безадкладна пачаць зьбіраньне грамадзкага ападаткаваньня згодна з пастановай зьезду ад 25. 4. 48 г.

**Урад Камітэту.**

## ШУКАЮЦЬ...

**Кошт абвесткі — па аднэй марцы за кажнае паасобнае слова. Аплата наперад.**

Сястру**Авэліну**, швагра **Маміса Стася** — Шантар Яніна. Весткі на адміністрацыю «Бацькаўшчыны».

Швагра **Валодзю Савіча** й сястру **Надзю** — Пётра Шантар. Весткі на адміністрацыю «Бацькаўшчыны».

Дачку **Зіну** — Тодар Блашчаніца. Весткі на адміністрацыю «Бацькаўшчыны».

Мужа **Лузанова Пётру** — Лузанова Станіслава. Весткі на адміністрацыю «Бацькаўшчыны».

Сыноў: **Раманоўскага Браніслава**, нар. 1923 г., і **Раманоўскага Канстантына**, нар. 1926 г. — Раманоўскі Іван. Весткі на адміністрацыю «Бацькаўшчыны».

**Знаёмых з Палескае акругі, Васілевіцкага раёну** — Рагаўцоў І. Ф. з лугасу «Ведрычы». Весткі на адміністрацыю «Бацькаўшчыны».

Брата **Шаграя Мікалая**, нар. 1926, Магілеўскай акругі — сястра Марыя Шпакоўская. Весткі на адрыс: Passau, DP-Lager Mayerhof-Kaserne.

**Адамовічаў Флёрку** (нар. 1924 г.) і **Антося** (нар. 1926) з Бабінкі, Бярэзінскага раёну. Весткі на адміністрацыю «Бацькаўшчыны».

Бацьку **Рыбніка** Ціхона з Браслаўшчыны — Рыбнік Лявон. Весткі на адміністрацыю «Бацькаўшчыны».

Маці **Дуброўскую** Аляксандру й сёстраў Люсю й Вольгу — Сяргей. Весткі на адміністрацыю «Бацькаўшчыны».

Whiteruthenian Newspaper „The Fatherland"
Authorized by Headquarters European Command Civil Affairs Division A P O 757, A. G. 383, 7 GEC-AGO
Administration — (13b) Osterhofen, Ndby., Whiteruthenian D. P. Camp.
Printed by: Hils & Maier, Dingolfing, Bruckstraße 99